# „ЗАРАНКА"



## КНІЖКА 3-я. (12)

Друкарня Я. Левіна Вільня.

# Наша пошта.

АЛЯКСАНДРУ МІЛЕВІЧУ. Прысылай больш і старайся падбіраць цікавейшыя рэчы, тады зьмесьцім.

СЯРГЕЮ ГЕРУСУ. Вельмі нам прыкра, што Вы не атрымалі 1—2 кніжкі „Заранкі“ — хаця яна была Вам выслана, як і ўсім другім. Адначасна з гэтай кніжкай 3-яй высылаем вам і папярэднюю. — Твой ліст „Маладому Дзядку“ перададзяны і ён тваю просьбу абяцаў споўніць й апісаньне Вільні дасьць у адным з чародных нумяроў. — Што тычыцца Тваіх вершаў, то шчыра табе радзім — пакінь іх пакуль што пісаць. Старайся чытаць шмат беларускіх твораў, нашых найлепшых паэтаў, сам пішы звычайна, як гаворыш, уселякія апавяданьні, запісывай казкі і г. д. А з часам, як добра навучышся пісаць і валадаць роднай мовай, тады ізноў зможаш папрабаваць пісаць вершы.

„АЛЕСЮ РУЧАЙКУ“. Вельмі, вельмі ўцешыў нас твой мілы і гэтак добра напісаны лісток. Усе твае загадкі і круцігалоўкі цікавыя і добра зложаныя і ўсе будуць зьмешчаны. Старайся прыдбаць „Заранцы“ больш падпішчыкаў з Вашай школы і пішы часьцей.

„САЛАВЕЙКУ“. Апавяданьне „Насачыў“ у адным з чародных нумяроў зьмесьцім. Адзін з вершаў друкуем цяпер. Наагул відаць, што пісаць можаш, толькі трэба шмат працаваць над сабой, над сваім развіцьцём, трэба шмат чытаць прыгожых твораў нашых і чужых пісьменьнікаў, а тады добра падгатаваўшыся і сам ляпей пісаць будзеш.

СЯРГЕЮ АТРАХІМОВІЧУ. Вельмі дзякуем Табе за мілы ліст. Шчыра нас уцешыла вестка, што Вы гэтак нецярпліва чакаеце „Заранкі“. Ці кніжку 1 — 2 гэтага году атрымалі? Адрас мы зьмянілі.

Як жа-ж там у Вас справа лекарскіх зёлкаў, ці ўжо пачалі што зьбіраць. Цяпер якраз пара зьбіраць пучкі бярозы і сасны, а таксама ягады ялаўца і капаць-карэньні: арнікі, сабачага мыла і аяру.

Вокладку кніжкі 8—9 рысаваў наш малады мастак Васілеўскі; жыве ён у Вільні.

Тваe жарты і загадкі добрыя; прысылай больш і часьцей пішы „Заранцы“ лісты.

Е. ВАХОВІЧУ. Напішы ці атрымаў „Заранку“ кн. 1—2 г. г, і 8 — 9, якую мы выслалі паўторна. Загадак ня зьмесьцім, бо 1-я з іх ужо была ў „Заранцы“, а другая вельмі неясна зложаная. Прышлі больш, як будуць добрыя, то зьмесьцім ахвотна.

А. АНІСЬКУ. Шчырае дзякуй за Вашыя спагадлівыя словы, якіх „Заранка“ так мала чуе ад старэйшага грамадзянства нашага краю.

„СЯРОЖЫ ПАСТУШКУ“. На гэты раз „Заранку“ вышлем „палецоным“ пакетам, мо‘ хоць так яна дойдзе. 1 зл. 70 гр. ад Цябе атрымалі, таксама і лісты, а „Заранка‘, ўвесь час пасылалася. Апроч таго былі высланы два лісты, як адказы на Твае пытаньні. Дзе гэта ўсё магло дзецца. Мо‘ Твой адрас не правідловы.

„МАРУСІ АНТАКАЛЯНЦЫ“. Загадкі добрыя. Верш „Апошнія дні“ — ня дрэнны, хаця яго можна назваць — „белым вершам“ бо ня мае рытмаў. Схаваем яго, а цяпер прысылай на другія тэмы.

„САСНАВІЧАНЦЫ К.“. Круцігалоўкі вельмі цікавыя, але-ж на жаль цяпер іх зьмясьціць ня можам, бо да такіх круцігаловак трэба рабіць клішэ, што вельмі дорага каштуе, да гэтых двох круцігаловак каштавала-б клішэ 20 злотых найменей.

М. СМАРШЧКУ. Загадкі добрыя, але зьмесьцім толькі тады, як прышлеш падпіску, бо не падпішчыкаў ня зьмяшчаем.

---

ЛАНЦУГ ПАДПІШЧЫКАЎ.

ПАТРУБЕЙКА РЫГОР падаў Пракопа Стэльмаха.
ГЕРУС СЯРГЕЙ падаў Рыгора Геруса і Альжбету Логаш.

Хто далей?

# ЗАРАНКА

Ілюстраваная
часапісь
для дзяцей

ВЫХОДЗІЦЬ КНІЖКАМІ.

Падпісная цана з перасылкай: 3 кніжкі 1 злот. Адна кніжка 40 гр. Заграніцу удвая даражэй.

Падпіська прымаецца
з кожнага месяца

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і АДМІНІСТРАЦЫІ:

Вільня, Віленская вул. 12, кв. 6

„ЗАРАНКА"

Ілюстраваная часапісь для дзяцей.

Год II. Вільня, Красавік 1928. № 3



# З вясновых малюнкаў.

У золаце зорных валокнаў,
У красках лятункаў і сна,
Прышла, вось і стала ля вок-
У нас, чараўніца вясна. [наў

Заліта зямелька пяшчотай
Іскрыстага сонца касуль,
Няма ані цені маркоты
Адкуль толькі цуду, адкуль?

Недаўна марозы, завеі
Свае карагоды вялі,
І раптам, як срыбныя зьмеі
Усюды уюцца руччы.

Нат‘ вецер дуронік здрадлі-
Умурзауся дзесьцi цяплом [вы
І скача часамі над нівай
У пары з вясновым дажджом.

Паранкамі сьвежа і чыста
Зіяе сінявая даль,
А рэчка свой твар серабрысты
У ваўністы хавае вуаль.

Аблочкі віхрыстым вяночкам
У ясным блакіце плывуць
І птушкі з выгнаньня шнуроч-
Да роднага моху лятуць. [кам

Лукішкі. 10. IV. 28.

М. Машара.

З. ВЕРАС.

# Першыя кветкі.



Уадзін з першых цёплых со-няшных дзён, якія сёлета на-ступілі вельмі позна, бо аж ў канцы красавіка, перад чысь-ценькім будынкам беларускай шко-лы аж гудзела ад вясёлых галасоў сабраўшыхся школьнікаў. Чысь-ценькія вопраткі, вясёлыя тварыкі ды спакойнае захаваньне рабілі прыемнае ўражаньне на праходзя-чых жыхароў вёскі.

— „Што-ж вы гэта сягоньня ня вучыцеся? — спытаўся адзін старэнькі дзядзька — сьвята ў вас якое, ці што?“

„Сьвята, сьвята, у адзін голас закрычалі дзеці, а адзін з старшых хлапчукоў дадаў: — „Або-ж не сьвята? сягоньня першы раз пасьля доўгай, сьцюдзёнай зімы ідзем з нашым вучыцялем у лес, ідзем спатыкаць вясну!“

У гэтую-ж мінуту скрыпнулі дзьверы і на парозе школы зьявіўся вучыцель, ветліва вітаючы сваіх вучняў.

— „Што-ж, дзеткі, ідзем? — Ці ўжо ўсе сабраліся?“

„Усе, усе“, адказалі дзеці, ды хуценька і спраўна сталі ў пары; вучыцель стаў побач першай пары і ўсе скіраваліся пряз вёску ў віднеючы ў воддалі лес.

Вышаўшы на акружаючыя вёску пяшчаныя ўзгоркі, дзеці разьбегліся на ўсе бакі, і зараз-жа пачуліся радас-ныя крыкі:

„Сончыкі, сончыкі! Пане вучыцель, сончыкі ўжо кра-суюць! — і кожны з сваей дабычай бег да вучыцеля па-хваліцца.

„Так, дзеткі, гэта сончыкі, мілыя веснавыя кветкі. Ба-чыце якія яны прыгожыя. Цёмна-філатовыя званочкі, усе пакрытыя шэрымі кашлатымі валаскамі, як-бы цёпленькім кажушком, а заквеці іх на кароцянькіх ножках так у свой

кажушок абкутаны, што на шэрай зямлі і дагледзіць цяжка. А ці вы, дзеткі, заўважылі, што лісточкаў у сончыкаў цяпер няма? Праўда? Яны вылезуць з зямлі крышку пазьней, такія прыгожыя: трайчаста-пярыстыя, шэра-зялёнага коляру.

Гэтак гутарачы пасоўвалася наша грамадка ў напрамку лесу. Дзеці зорка аглядаліся па бакох, ці не ўдасцца чаго новага знайсьці. У хуткім часе перад імі, на глiністым узгорачку, зазіхацелі нейкія жоўтыя зорачкі.



— Што гэта?—кінуліся дзеці.

— Гэта падбел цьвяце, — сказаў Алесь. Я яго добра знаю, бо мая бубулька зьбірае яго лісьця і капае карэньні на лекарства.

— А дзе-ж тыя лісьця? — запыталасм малая Алёнка.

Падбел, адказаў вучыцель, тады выпускае лісьця, як ужо кветкі адкрасуюць. Лісьця ён мае кругла-сэрцаватыя, груба-зубкаваныя, зверху гладкія, бліскучыя, а падысподам бела-кашлатыя і дзеля гэтага яго называюць „падбелам". А кветкі бачыце якія? Кожная кветка як-бы цэлая сямейка, бо складаецца з вялікага ліку малюсяцькіх кветачак.

Тымчасам і лес быў блізка. Лес мяшаны: у блізкім суседзтве стаялі высокія зялёныя ёлкі і белыя стрункія бярозкі, і шэрыя кусты ляшчыны ды каліны і дзе-не-дзе спатыкалася з чырвонаю карою сасонка. Зямля яшчэ была шэрая, пакрытая леташнім сухім лісьцём, а месцамі пад густымі елкамі ляжаў нават сьнег.

Але-ж і тут вясна кінула ўжо вокам, і ад яе цёплага погляду збудзіліся першыя лясныя кветачкі — пралескі. Цэлымі масамі прабівалі яны сухія лісьця пад кустамі ляшчыны і сьветла-сінім колярам ажыўлялі краявід.

Дзеці радасна кінуліся зьбіраць прыгожанькія кветачкі і хутка з поўнымі іх жменямі сабраліся каля вучыцеля, які ўзяўшы некалькі прялесак паказваў іх будову, зьвяртаючы ўвагу дзяцей, што ня ўсе кветкі маюць адзінакавы лік пялёсткаў, а бывае іх ад 6-ці да 12-ці.

— Ай, што гэта? — крыкнуў раптам нехта, што за

жоўты туман падняўся? — Гэта ляшчына цьвіце — адказаў вучыцель, яе даўгія каткі вырабляюць шмат жоўтага пылу; як вецер павее, пыл гэты ляціць цэлым туманом, паасобныя пылінкі пападаюць на другія кветачкі ляшчыны інакшай будовы, зьліваюцца з імі і такім чынам паўстаюць овачы ляшчыны — гарэхі.

Вось гэтыя даўгія каткі, якія вырабляюць пылок, называюцца кветкамі пыляковымі, а гэтыя вось—стоўпікавыя; яны растуць па 2—3 ў аднэй папушцы, з якой толькі выглядаюць чырвоныя нітачкі.

Але-ж даволі, дзеці, пара ўжо і дамоў варочацца. Цяпер кожны дзень будуць усё новыя ды новыя кветкі, а мы праз пару тыдняў ізноў выйдзем ў поле і ў лес паглядзець каго там вясна праз гэты час выклікала на сьвет.

---

КАРЛ ЭВАЛЬД.

Пераклаў А. Войніч

# Зямля і камэта.

Хачу расказаць вельмі нязвычайную гісторыю. Яна дзеецца ў працягу некалькі сотняў гадоў, а людзі што жылі на пачатку гэтае гісторыі, памёрлі і іх пахавалі, пакуль яна добра разьвілася, ня тое, каб дачакаць яе канца.

Адбываецца яна ў шырокім сусьвеце там, дзе плывуць зоркі, а сьцюжа такая, што ў добрай зімовай футры зьмерзнеш таксама, як і ў кароткай сарочцы. Сусьветны прастор такі бязьмежна вялікі, што славамі выказаць бадай што не магчыма. Ды гэта яшчэ не найбольшая бяда. Можа і знайшоўся-б такі, што сумеў-бы гэта зрабіць ды іншым было-б цяжка яго зразумець.

* *
*

У шырокім сусьвеце зямля абярталася навокал сонца, як гэта рабіла ад шмат тысячагодзьдзяў і робіць па сёньняшні дзень. Яна абярталася раз за разам; іншаму даўно-б ад гэтага закруцілася галава.

Але зямля прывыкла круціцца праз цэлы год і як толькі кончыла адзін абварот, пачынала новы.

За ўвесь той час круцілася яшчэ навокал сябе самой, як малады сабачка, што бегае за сваім хвастом. Ды на тое ня трэба было ёй больш часу, як дваццаць чатыры гадзіны, а рабіла гэта толькі дзеля таго, каб сонца яе раўнамерна асьвечывала з усіх бакоў. Бо на тым баку, што быў адвернены ад сонца, панавала-б вечная ноч. Калі-б зямля зьвяртала ўсё да сонца Эўропу, Азію і Афрыку, дык у Амэрыцы людзі ня вылазілі-б з ложкаў.

Вось-жа зямля мела даволі працы, ды трэба было ёй яшчэназіраць за месяцам.

Месяц, як ужо пра гэта была гутарка, мог і сам аб сабе дбаць. У яго было толькі работы, што абкруціцца навокал сябе зусім так, як зямля, а апрача таго яшчэ навокал зямлі, як зямля навокал сонца. Ен быў значна меншы за зямлю і трэба было яму сядзець ціха. Зямля гаварыла да яго прыказваючым тонам, а ён дражніў яе без перастанку.

Яно было яшчэ і праз тое, што абое блізка каля сябе стаялі, а ўсе іншыя зоркі былі вельмі далёка, каб з імі можна было гаварыць. А як маем быць усё і навекі разам, дык ня шмат трэба, каб гневацца адзін на аднаго.

Правільна раз на чатыры тыдні быў месяц у поўні. Тады яго круглае аблічча так весела падсьмейвалася ад шчырага сэрца, што зямля станавілася проста шалёнай.

„Глядзіце, як ён зьяе, вось той нэндзны валацуга!“— казала яна. — „Ен выабражае сабе, што ён сталая зорка“.

Месяц падсьмейваўся ў працягу ўсяе поўні. Але яна ня доўга трывала. Кожную ноч выдоўжвалася яго аблічча; яно выглядала так, як-бы ён быў у пахмельлі. Нарэшце зусім зьнікаў, але неўзабаве ізноў зьяўляўся, рабіўся большым ды большым і нанова быў у поўні.

„Ці ты можаш ісьці за мной“? — пыталася зямля.

„Вачавідна — адказваў месяц.

„Спадзяюся, што ты добра аблічываеш час“, — гаварыла зямля далей. — Толькі памятай: калі я раз абягу навокал сонца, ты-ж павінен абярнуцца навакал мяне трынаццаць разоў. Інакш календар будзе ў непарадку“.

„Я ўжо даволі набегаўся каля цябе і ведаю, што мне

рабіць, ты, лютая старая планэта!“ — адказваў месяц, ён як раз быў таго дня ў поўні, а тады ніколі не забываўся языка ў роце.

Ды яшчэ іншым спосабам даскуліваў ён зямлі. Часам з усяе сілы цягнуў ваду на зямлі ў адзін бок і там быў прыліў, а на другім баку вада стаяла вельмі нізка. Тады было так, што на адным баку былі паводкі і нешчасьлівыя выпадкі праз затапленьне, а на супраціўным вязьлі караблі на мяліне. Людзі, якім давадзілася цярпець праз тое, наракалі, што на праклятай зямлі такое жыцьцё, што і вытрымаць ужо трудна. Зямля зусім прыродна абражалася гэтым, бо была нявінна, і яшчэ горш гневалася на месяц.

„І гэты хлапец ізноў у поўні“, — лаялася яна, — „я-б хацела ведаць, на што гэта ўсё здалося, што ён так круціцца бяз перастанку“.

Так яны вадзіліся; тым часам мінаў год за годам і яны адбывалі свае азначаныя дарогі. Кругом вандравалі іншыя зоркі са сваімі турботамі і хлапотамі. А ў сярэдзіне сусьвету і панад усімі зьяла сонца.

* *
*

Аднаго дня ў сакавіку прыбыла ў сусьветны простор нейкая чужая зорка.

Ні месяц. ні зямля ніколі яшчэ яе ня бачылі. Дзеля таго абое вытарашчалі вочы. Яна зусім ня была падобная да іншых зорак, бо мела доўгі бліскучы хвост.

„Хто гэта ў ліха такі?“ — пыталася зямля.

„Я яшчэ такога дзіва ня бачыў!“ — гаварыў месяц.

Абое былі так зьдзіўлены, што без малога не сталі на мейсцы. Чужая зорка надыходзіла ўсё бліжэй і бліжэй; зямля перапалохалася, што яна на яе наляціць. Калі заблудзіўшаяся зорка была ўжо так блізка, што можна было яе паклікаць, зямля гукнула:

„Гэй, ты! Ты чаго тут на маёй дарозе шукаеш? Хто ты такая. Адкуль прышла і куды ідзеш?„

„За шмат адразу пытаешся“ — адказала чужая зорка.

„Хто ты такая“? — пыталася зямля ізноў.

„Я сабе толькі невялічкая камэта“ — адказала зорка. — Але хто ты?

„Я зямля. — Цяпер ты ведаеш з кім маеш справу?“

„Праўду кажучы, я яшчэ гэтага ня ведаю“, адказала камэта. — „Гэта старана неба мне зусім чужая; я яшчэ тут ніколі ня была і не знаёма з ніякай тутэйшай зоркай“.

„Калі гэта так, дык ты зьвярнулася да ўласьцівае крыніцы“, — пахвалілася зямля. — „Я ня маю звычаю хваліцца, але мушу сказаць, што з нас усіх я найталентнейшая“.

„Ну, дык я мела шчасьце“, — сказала камэта“.— „Але расказывай хутчэй, бо я ня маю часу“.

„Мы-ж абяртаемся вельмі хутка наперад“, — ветліва сказала зямля. — „Хадзі са мной ды праўдзі мяне раз навакол сонца! — Што? Гэта трывае толькі адзін год. У часе гэтага можам вельмі добра бавіцца“.

„Пфэ!„ — глумліва адказала камэта. — „Гэта завецца ў цябе вельмі хутка? Я звычайна ляту зусім ня так. Сьпяшыся, няхай чую, што вы за людзі!“

„Наперад абяцай мне, што будзеш уважаць і на мяне не наляціш,“ — сказала зямля.

На гэта чужая зорка так голасна засьмяялася, што хвост яе падзяліўся на тры часткі.

„Не палохайся,“ — адказала яна. — „Я вольная рассеяная істота, і як ударуся ў такую калоду, як ты, рассыплюся на тысячу кусочкаў“.

„Ага“, — раздумывала зямля з запалам. — „Ты складаешся толькі з самога агню! І я некалі была такой“.

„Гэта пэўна было досьць даўна?“ — з няверай запыталася камэта. — „Мне здаецца, што ў цябе на бягуне вялікая ледзяная шапка“.

„Ды ўжо“, — адказала зямля. — „Нават на кожным бягуне. Ды я думаю, што ня шкодзіць мець халодную галаву і халодныя ногі, а за тое трымаць цела ў добрай цеплаце“.

„Гм... а дзе-ж агонь?“ пыталася камэта.

„У маім нутры“, адказала зямля. — „Калі маеш ахвоту, можаш зараз убачыць“.

І ня доўга думаючы, весело пасыпала агнём з некалькі сваіх найбольшых вульканаў.

„Дзіва, дзіва!“ — закрычала камэта. — „Там запраўды нешта ёсьць“.

„Нешта?“ — абурылася зямля. — „У мяне цэлае цела поўна агню, калі табе хочацца ведаць. Як раз гэта робіць мяне нязвычайна цікавай. Ведаеш... некалі даўна я была такой, як ты, вясёлай расьсеянай гулякай. Але з часам я ўзяла сябе ў рукі і згусьцела. Нарэшце ўтварылася на маей паверхнасьці грубая кара, і цяпер магу толькі ў маіх вульканах паліць так, як у печах. Але ў сабе я маю агонь!“

„Кара, гэта мусіць вельмі цяжкая рэч“, — сказала камэта.

„Ды яно праўда“ — прытакнула. — „Але з часам прывыкаецца. І цяпер на гэтай карэ жывуць людзі“.

„Людзі?“ — паўтарыла камэта. — „А гэта што такое?“

Зямля турботна пацерабілася ў паўночным бягуне і пры тым так сільна таўхнула ледзяную шапку, што ад яе адарвалася некалькі вялізарных кускоў, якія вынырнулі з мора ледзянымі гарамі.

„Гм“, — сказала яна пасьля таго. — „Гэта асаблівы род кузурак“.

„Тфу!“ — перапыніла камэта.

Зямля на мінутку змоўкла, як-бы раздумываючы над нечым. І так далей расказывала:

„Лазяць яны і пнуцца ўсюды, што часам можна ад гэтага звар‘яцець. І чым далей, тым горш становіцца. Яны перарылі мяне ўперак і ўдоўж, каб дастаць вугаль, металы ўсё іншае, чаго ім трэба. Яны накладаюць на мяне шыны і езьдзяць парай кругом мяне, праведаючы мае найвышэйшыя горы ды будуюць масты на маіх водах. І яшчэ пасьля гэтага ўсяго кажуць, што яны мае паны“.

„Гэта на маю думку ня вельмі пахвальна, як зорка пазваляе такой жамяры рабіць з сабой, што захоча,“ — сказала камэта. — „Хіба ты ня можаш абтрасьціся ад гэтых стварэньнячкаў?“

(Працяг будзе).

# Вясна.

Ужо ўсюды зялёна;
Ад красак пах сьвежы
Разносіць лес, поле
І луг—сенажаць;
Работы хватае
Для ўсей маладзежы,
Бо трэба ўсім хлеба
На зіму прыдбаць!

Жанкі і дзяўчаты
Снуюць ў дому кросна,
А хлопцы у полі
Кароўкі пасуць.
На вербавых дудачках
Іграюць жалосна...
Усе дружна, карысна
Работу нясуць!

А нават і птушка
Ня сядзе без дзела:
А дзеткам вось гнёздачка
Пляце ў кружок. —
Наклала саломкі,
Па мох паляцела
І робіць ім цёплы
І мяккі куток.



А коні з валамі —
Карысна жывёла,
Нагрэту зямельку
Усюды гаруць;
І кожны ў рабоце.
Ахвотна, вясёла —
Дый дружна патрэбную
Працу нясуць!

Людвісь Славінскі.

м. Ражаная, Косаўскі пав.

# Працы нашых чытачоў.

## На Палесьсі.

Выбіраўся мой дзядзька ехаць на Палесься да сваіх знаёмых і мне вельмі хацелася паехаць з ім, пабачыць сваімі вачыма тое Палесься, пра якое я так шмат чуў і чытаў апавяданьняў, казак і ўсялякіх апісаньняў. Я пачаў прасіць сваіх бацькоў, каб яны дазволілі мне паехац паглядзець палескія балоты. Бацька спачатку не згаджаўся на маю просьбу, але пасьля, як прышоў дзядзька і сказаў майму бацьку: „Няхай ўжо зьезьдзіць, паглядзіць, гэта-ж не так ужо далёка, дарога будзе каштаваць цягніком нейкія шэсьць злотых у абодва бакі“. Бацька па нейкім часе згадзіўся, і мы пачалі зьбірацца ў дарогу. Я з нецярплівасьцяй чакаў тае хвіліны, калі мы выедзем. Аж у канцы-канцоў дачакаўся. Аднаго дня прышоў да нас дзядзька і кажа: „Зьбірайся, сёньня едзем“. Я з радасьці ўскочыў і пачаў прыбірацца. Па некалькі мінутах я быў ужо прыбраны, і, разьвітаўшыся са сваімі, пайшоў да дзядзькі. Дзядзька таксама быў гатовы і мы вышлі з хаты. Пагода ў гэты дзень была вельмі харошая. Ішлі мы на станцыю сьцежкаю паміж жыта. Гэта было акурат у палове лета тысяча дзевяцьсот дваццаць шостага году. Жыта у гэты час канчала сьпець, і яно прадстаўляла сабою, як-бы вялікае мора, катораму, здаецца, і канца німа. Хто бачыў калі-небудзь у гэны час вясковыя шнюркі, засеяныя жытам, каторае на адным загоні большае, а на другім — меншае, ды яно пры ціхім летнім ветрыку калыхалася, то ў адзін бок, то ў другі, прадстаўляла як-бы хвалі на моры. Вось, здаецца, каб быў я мастаком, дык вымаляваў-бы беларускія шнюркі жыта і другога збожжа, і разаслаў-бы на ўвесь сьвет, каб усе людзі паглядзелі на беларускія палеткі, з каторых жывуць беларусы. Жаўранак падняўся высака, высака ўгару, як-бы хацеў, каб як найвышэй. каб як найбліжэй дабрацца да Таго Гаспадара, Каторы так

хораша і добра ўсё зрабіў, і там Яму падзякаваць за Яго такую вялікую міласьць, каторую Ен дае і людзям, і птушкам, і ўсяму жывому. Дзядзька зьвярнуўся да мяне і кажа; „Усе птушкі нейдзе пахаваліся, а ён адзін усё пяе ды пяе; вось дзе вясёлая птушка. Хоць ён і няпрыгожы сваім выглядам, але песьнямі сваімі мае такі вялікі ўплыў на людзей, што яны з вялікаю адносяцца да яго пашанай". Бо і праўда, жаўранак першы разьвяселіць людзей сваімі песьнямі, пасьля так цяжкае і нуднае зімы. Ен першы ўздымецца ў раньнюю, раньнюю вясну ўгару, і адтуль ужо цешыць людзей сваімі песьнямі. Людзі у працягу зімы ня чулі птушыных песьняў, а пачуўшы першы раз ад жаўранка, вельмі рады з іх. На небе калыхаліся маленкія хмарачкі, белага колеру. Былі яны падобны да маленькіх лодачак, каторыя нехта пусьціў у безгранічнае мора на іх уласны лёс. Яны плавалі па гэтым сінім моры і, быццам шукалі сабе якога небудзь прыпынку. Усё гэта вельмі хораша малявалася ў так харошы летні дзянёчак.

Перайшоўшы поле, мы ўвайшлі ў лясок, каторым трэ' было перайсьці нейкіх дзьвесьці мэтраў. Тут ужо ня было так ціха, як гэта было на полі, бо тут цянёк, а на полі ў гэны час вельмі горача. Карыстаючы з так прыемнага халадку, птушачкі пеялі на ўсе лады свае прыгожыя песьні. Тут на елцы з боку сьцежкі нешта зашапацела; я пачаў прыглядацца й ўбачыў вавёрку, каторая спакойна сабе абгрызала яловыя шышкі. Далей, перад намі праз дарожку шмыгнуў у левы бок зайчык. Я сказаў дзядзьку: — „Нам пашэньціць, бо зайчык пераскочыў у левы бок". — „Адкуль ты гэта ведаеш" — запытаўся дзядзька.

„Чуў ад другіх людзей, што як перабяжыць які колечы зьвер, ці пераляціць якая птушка праз дарогу ўлевы бок, то заўсёды таму пашанцуе ў яго напрамку, а як управы, то будзе кепска", — адказаў я. Трэба тут прызнацца, што дзядзька мой мала знаў вясковае жыцьцё, жыў їда гэтага часу ў вялікіх местах і няпрывык яшчэ да вясковага жыцьця, дзеля гэтага ён не знаў і гэтых вясковых забабонаў.

Я вельмі быў здаволены з таго, што мне дазволілі пабачыць сваіх братоў—паляшукоў і пазнаёміцца з іхнім жыцьцём. Дзеля гэтага я ішоў на станцыю з подбегам.

Я быў яшчэ задаволены з таго, што парадачны кусок дарогі праедзем мы цягнікам, на каторым я так мала яшчэ езьдзіў. Па нейкім часе мы дабраліся да станцыі. Тут людзі хадзілі то ў той, то ў другі бок, выносілі нейкія пакункі з будынку і насілі бліжэй да рэйкаў, па каторых меўся ісьці цягнік. Мы пашлі ўзяць сабе білеты. Узяўшы іх, мы вышлі на пэрон, на каторым таўклося ўжо шмат людзей, і старых, і малых, каторыя паглядалі на свае гадзіннікі, і казалі, што хутка прыдзе цягнік. Я пачаў паглядаць у той бок, з каторага спадзяваўся яго. Доўга я не чакаў. У хуткім часе абабіўся аб нашыя вушы востры сьвіст паравозу, а па хвіліне і сам цягнік высадзіў з-за маладога ельнічку, падстрыжанага пад адну вышыню, свой нос, а па некалькі мінутах ужо быў ля самай станцыі.

— Пс-с-с-с-с-с — затармазіў машыністы, і аграмадныя колы пасунуліся на рэйках. Замітусіліся людзі: той бяжыць па свае рэчы, той цісьнецца ў вагон, трэйці прэ з вагону, а кожны нейдзе сьпяшаецца, кожны некуды прэцца, і, здаецца, чаго ім так сьпяшацца.

Мы з дзядзькам увашлі ў вагон і пачалі шукаць сабе мейсца, дзе можна было-б сесьці. Па хвіліне знайшлі. Палажыўшы свае рэчы на паліцу, я пачаў паглядаць праз вакно на двор, дзе яшчэ таўкліся людзі. Цягнік на нашай станцыі стаіць нейкіх 5 мінут, але дзеля таго, што грузілі ўсялякія рэчы ў багаж, то ён стаяў даўжэй. Па хвілі ўсё кончылі грузіць. Кандуктар тройчы засьвістаў у сьвісток, і даўжэзны ланцуг, павязаных адна за адну хатаў заварушыўся і пасунуўся ўперад. Машына страшна сапучы і выкідаючы праз свой шырокі комін цэлыя хмары дыму, паўзла ўперад.

Янка Патаповіч.

(Працяг будзе).

# Прылёт птушак.

Мілыя птушачкі зноў к нам вяртаюцца
З цёплых, далёкіх краёў.
З імі ўсё радасна шчыра вітаецца,
Рады мы бачыць іх зноў.

Песьні нясуцца над шэрай зямлёю,
Смутак зганяюць з душы.
Птушкі нясуцца да нас чарадою
Песьні свае нясучы.

Вільня. Люты 1928 г. Салавейка.

# Вясна.

Прышла ўжо доўга чаканая вясна. Дні сталі доўгія, а ночы кароткія. Сонца на небе ідзе высака, сьвеціць ясна і моцна агрэвае зямлю. Ад гэтага цяпла ўсе прабудзілася ад сну зімовага.

Рэкі, каторыя былі скаваныя зімой лёдам, звальніліся ад яго ды паплылі аж да сіняга мора.

Мядзьведзь, які спаў цэлую зіму ў сваім мярлогу, прачнуўся і пайшоў па лесе, шукаючы пажывы.

Пастухі ды пастушкі павыганялі кароў і авечак на луг, які пакрываецца ўжо зялёнай травкай.

Гаспадары, паехаўшы на поле, аруць, кожны сваю ніву, а высока над іх галовамі пяюць жаўранкі ды пералятаюць розныя птушкі. Алесь Ручаёк.



# КУТОК СЬМЕХУ

Бацька кажа да свайго малога сына:

— „Юзік, прынясі мне гэную газэту, што я ўчора чытаў, яна ляжыць на шафе.

— Добра тата, — кажа Юзік — але хадзі мяне падымі, а то я не дастану.

---

Вучыцель пытае вучня, каторы стаіць на каленях:

— „Янка, скажы мне. кім бы ты хацеў быць?“

— „Занахарам, пане вучыцяль“.

— „Чаму так?“

— „А таму, што, каб я прадбачыў, што буду сягоньня стаяць на каленях, то не прыйшоў-бы ў школу“.

(Падаў Уладыслаў Карповіч).

---

## БУЛАЧКА ЗА НІЧОГА.

Адзін бедны хлопчык углядаўся ў вітрыну пякарні, дзе было шмат харошанькіх булачак, аднак купіць сабе іх ня мог, бо грошы ня меў, а голад яму вельмі дакучаў. Урэшце зайшоў у пекарню і запытаўся:

— Па чым гэтыя булачкі?

— Дванаццаць штук за адзінаццаць грошаў — адказаў пекар.

— Ах! дванаццаць за адзінаццаць грошы. Гэта вельмі добра. Вось-жа меў-бы 11 булачак за 10 грошы, 10 булачак за 9 грошы, 9 булачак за 8 грошы, 8 булачак за 7 гр., 7 булачак за 6 грошы, 6 булачак за 5 грошы, 5 булачак за 4 грошы, 4 булачкі за 3 грошы, 3 булачкі за 2 грошы, 2 булачкі за адзін грош, а адну булачку за нічога.

Калі-ласка, дайце мне вось гэтую прыгожанькую булачку за нічога.

Пекар, разсьмешаны доказамі хлапчука, споўніў яго просьбу і даў яму булачку за нічога.

„Moje Pisemko“.

---

# Загадкі і круцігалоукі

## ЗАДАЧА.



Злажыць з васьмі сярнічкаў дамок, як паказана на рысунку. Адняць з гэтага чатыры сярнічкі, каб асталася рымская цыфра „два“.

(Падаў Уладыслаў Карповіч).

## ЗАГАДКА.

Ня мае мяне ёлка, зьяўляюся часткай сасны, бяз мяне сонца не мела-б пачатку, а лес быў-бы без канца; без мяне не было-б старасьці і я вечна стаю на пачатку сакавіка. — Што гэта такое?

## КРУЦІГАЛОЎКА.

Я задумаў 3 словы. 1-е азначае дамовую птушку, 2-е— ґародніну, 3-е — найважнейшую часьць цела.

Калі з 1-га слова возьмем першы склад, з 2-га другі і з 3-га другі, то чытаючы іх папарадку атрымаем псэўданім найбольшага беларускага паэта.

Якія задумаў я словы і які гэта псэўданім?

(Падаў „Алесь Ручаёк“).

## РАЗГАДКІ да КНІЖКІ 1—2-ой.

### КРУЦІГАЛОЎКА ЛІЧБОВАЯ.

| | | |
|---|---|---|
| 8 | 3 | 4 |
| 1 | 5 | 9 |
| 6 | 7 | 2 |

### ЗАГАДКА 1-ая.

Бацька з дачкой.

### ЗАГАДКА 2-ая.

Літара „З“.

## ЛАМІГАЛОЎКА ПРАСТАКУТНАЯ.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Н$_1$ | ё | м | а | н | А |
| | р | э$_2$ | ч | к | а | Б |
| | К | у | п$_3$ | е | ц | В |
| НЭПТУН. | Ц | ё | т$_4$ | к | а | Г |
| | Д | у$_5$ | д | к | а | Д |
| | Н$_6$ | о | г | а | т | Е |

Рэдакцыя „Заранкі“ шле шчырае і гарачае „дзякуй“ нашым паважаным Братом-Беларусам у Амэрыцы, якія, не гледзячы на свае цяжкія абставіны ў час безрабоцьця, зразумелі патрэбу падтрыманьня адзінай ў Заходняй Беларусі дзіцячай часапісі і злажылі на карысьць яе наступныя ахвяры:

Андрэй Л. Татарын — **5** даляраў, Анна Літвін — **2** д., Мікалай Мацьвейчык, Сымон В. Татарын, Андрэй Іванчук, Антон Сым. Ламека, Тодар Рыбак, Юліян Крыўда, Міхал Бабіла, Марыя Акрэпка, Тодар Мароз, Марыя Пачэпка, Іларыён Сыты, Пётр П. Ламека, Рыгор Д. Ламека, Міхал Кашка — па **1** даляру, Цярэнцій Рыбак, Марыя Рыбак, Максім Рыбак, Сьцепан Макарчук, Анастазія Макарчук, Марыя Макарчук, Ганна Макарчук, Мацей Пачэпка, Рыгор Пачэпка, Зінаіда Лапкава, Пракоп Сідар, Майк Кудла — па **50** цэнт. Усяго **27** даляраў.

Слава і глыбокая ўдзячнасьць ахвярадаўцам!

Вельмі было-б пажадана, каб і грамадзянства Заходняй Беларусі гэтак спрыяла істнаваньню „Заранкі“, як нашыя браты ў Амэрыцы.

Рэдактар-Выдавец Л. Войцікава. Друк. Я. Левіна Вільня.